

# Працоўная Грамада

У адзінстве сіла!

№ 9 кастрычнік 2000 года

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ ЎСХОДНЯЙ ВІЦЕБШЧЫНЫ



*Браткі-беларусы! Ці вы пад гіпнозам,*
*ЦІ мо, даражзнькія, страцілі розум?*
*Крычу, каб прачнуліся, добра зірнулі,*
*Каб вашае сэрца і розум кранулі*
*Хлусня, самадурства і хамства ўлады,*
*Крычу, што есць моцы, мае землякі,*
*Пры гэтым сціскаю свае кулакі*
*Даволі ўжо, братка, даволі трываць,*
*Год дзвесце, як мовы маёй не чуваць,*
*Хачу, каб пявучая мова Купалы*
*Паўсюдна па нашай Радзіме гучала.*
*Шырокім праспектам ішоў каб Скарына*
*Па нашай цудоўнай азёрнай краіне.*
*Ой, доўга, як доўга за нос нас вадзілі.*
*Няпраўдай атрутнай, як зеллем паілі.*
*Хлусня на вушах, як тае завушніцы*
*Вісіць падарункам чынуш са сталіцы.*
*А наш узурпатар, былы прэзідэнт?*
*Разумных людзей ён зняславіў ушчэнт:*
*Хто ў турмах сядзіць, хто сышоў у магілу,*
*Згубіўшы сваю маладзецкую сілу.*
*Мо, хопіць, браточкі, сядзець, склаўшы рукі,*
*Ці вам не шкада вашых дзетак і ўнукаў?*
*Уставайце, яднайцеся, уголас крычыце,*
*Прашу, заклікаю, браткі не маўчыце!*
*Мы - нацыя, людзі, мы - дзеці Еўропы,*
*Нашчадкі ліцвінаў мы, а не халопы,*
*Мы годныя добрай, разумнай улады.*
*Тапчыце нагамі бязбожнага гада.*

**Яугенія КАЗЛОВА. 51 год. г. Орша**

# Выбары не адпавядалі дэмакратычным стандартам!

15 кастрычніка адбыліся выбары ў Палату прадстаўнікоў. Нягледзячы на ўсе абяцанкі прэзідэнскай улады, правесці выбары без парушэнняў заканадаўства ў адпаведнасці з міжнароднымі нормамі не атрымалася. Зараз толькі праз афіцыйныя СМІ можна пачуць пра свабодныя і дэмакратычныя выбары ў Палату прадстаўнікоў. Запрошаная тэхнічная ацэначная місія БДІПЧ АБСЕ зрабіла адназначны вывад аб адсутнасці істотнага прагрэсу па выкананню неабходных патрабаванняў да свабодных, дэмакратычных выбараў на Беларусі.

Аналагічныя вывады маюць назіральнікі за выбарамі ад грамадскіх арганізацый, якія назіралі за падрыхтоўкай і правядзеннем выбараў па Шумілінскай акрузе. Сярод атмасферы палітычнага ўціску, які стварыла прэзідэнцкая адміністрацыя на Беларусі, відавочны былі ігнараванні патрабаваннямі да свабодных і дэмакратычных выбараў.

Па-першае. Выканаўчая улада ўсіх узроўняў ажыццяўляла жорсткі кантроль за дзейнасцю выбарчых камісій, патрабуючы ад іх выканання працэнтаў яўкі на датэрміновае галасаванне, а таксама інфармавання аб грамадзянах, прыняўшых удзел у галасаванні. Але больш істотным парушэннем заканадаўства было агітаванне ўладай за “свайго” кандыдата – Лектарава В.М. ў рабочы час і на рабочых месцах, а таксама абмежаванне магчымасці іншых кандыдатаў да агітацыі. Створаны Кодэкс пазбавіў роўных магчымасцей кандыдатаў, якія не маюць адміністратыўнага рэсурсу.

Па-другое. Выбаршчыкі не мелі магчымасці зрабіць свядомы выбар, бо інфармацыя аб кандыдатах была абмежаваная, а часам і не праўдзівая. Напрыклад, кандыдат Лектараў раптоўна “забыў”, што ў 1998 годзе ім у Палаце прадстаўнікоў быў прыняты Закон “Аб статусе дэпутата Палаты прадстаўнікоў”, па якому кожнаму члену Палаты выплачваецца заробак міністра і прадстаўляюцца адпаведныя льготы па абслугоўванню. Дарэчы, кандыдат ад улады пазбягаў усякіх напамінаў, што адпрацаваў чатыры гады ў Палаце прадстаўнікоў і вынікам гэтай працы стала відавочнае пагаршэнне жыцця выбаршчыкаў.

Па- трэццяе. Правядзенне галасавання выбарчымі камісіямі засведчыла нізкі прававы ўзровень членаў камісій, неразуменне імі галоўных правоў грамадзян на свабодныя і тайныя выбары. Члены камісій не захоўвалі тайну ўдзела грамадзян у выбарах, чамусьці лічылі сваім абавязкам забяспечыць найбольшы працэнт яўкі выбаршчыкаў на ўчастак. Пры незалежнай судовай сістэме падобныя парушэнні заканадаўства прыводзілі бы да адміністратыўнай адказнасці, а магчыма і да угалоўнай.

Па-чацвёртае. Члены камісій праяўлялі высокую схільнасць да парушэнняў заканадаўства аб выбарах. Гэта датычыцца арганізацыі датэрміновага галасавання, галасавання на даму, парушэння свабоды волевыяўлення грамадзян і тайны галасавання. Безумоўна, адмоўную роль у гэтым выконвалі і супрацоўнікі райвыканкама, якія кіравалі выбарчым працэсам.

Калі грамадства не мае сілы для самаарганізацыі, то магчыма фальсіфікаваць любыя выбары. Але пры гэтым нельга спадзявацца на прызнанне іх свабоднымі і дэмакратычнымі. Еўрапейскія краіны не прызналі выбару ў Палату дэмакратычнымі і свабоднымі. Калі выканаўчая ўлада ( адміністрацыя прэзідэнта, мясцовая вертыкаль) і далей не выканаюць мінімальныя еўрапейскія патрабаванні да выбарнага працэсу, то і прэзідэнцкія выбары будуць нелегітымнымі. А спаўзанне грамадзян Беларусі да жабрацтва станавіцца ўсё мацнейшым.

**Леанід Гаравы**



# Предварительные выводы и заключения

**Миссии по технической оценке Бюро по демократическим институтам и правам человека (БДИПЧ) ОБСЕ о прошедших 15 октября 2000 г. выборах в Палату представителей Национального собрания Республики Беларусь. Печатается с сокращениями.**

Выборы в Палату представителей Национального собрания Республики Беларусь 15 октября 2000 г. не соответствовали международным стандартам, предъявляемым к демократическим выборам, а также требованиям, сформулированным в Копенгагенском документе ОБСЕ 1990 г. В частности, не были соблюдены минимальные обязательства по проведению свободных, справедливых, равных, подотчетных и открытых выборов. Несмотря на достижение некоторого прогресса по сравнению с предыдущими выборами, все еще существуют определенные недостатки в проведении избирательного процесса.

В соответствии с решением 3-й технической конференции, прошедшей 30 августа в Вене, БДИПЧ/ОБСЕ приняло решение направить на выборы в Беларусь только Миссию по технической оценке. В связи с тем, что положения о предварительном голо совании, переносных урнах для голосования, правилах подсчета и обобщения результатов голосования далеко не соответствовали минимальным требованиям открытости, необходимым для осуществления независимой проверки, БДИПЧ/ОБСЕ отказалось на править своих наблюдателей в день выборов. Даже безукоризненная организация голосования в день выборов не сможет исправить вышеуказанные недостатки.

Другими причинами, которые объясняют несоответствие этих выборов минимальным международным требованиям, являются:

1. Законодательство о выборах, принятое в начале 2000 г. с после дующими изменениями и дополнениями, внесенными в июне, будучи улучшенным, все равно содержит существенные и значительные недостатки. Тем не менее все объемлющее применение избирательного законодательства могло бы обеспечить демократичность процесса выборов, но этому помешали следующие факторы:

**а)** осуществление исполнительной властью контроля за работой избирательных комиссий;

**б)** злоупотребление процедурой регистрации кандидатов позволило исключить нежелательных претендентов из предвыборной борьбы, что ограничило свободу выбора избирателей;

**в)** осуществление жесткого регулирования предвыборной кампании кандидатов, что ограничило возможность ее проведения;

2. Другие законы также значительно ограничивали основные права и свободы граждан, такие, как право на свободу выражения, свободу собраний и ассоциаций, и привносили в избирательную кампанию элементы запугивания и ограничений. Особенное беспокой ство вызывает продолжающееся применение пункта третьего статьи 167 Кодекса об административных правонарушениях, которая предусматривает ответственность за призывы к бойкоту выборов и которая с июня 2000 года вступила в противоречие с поло жением нового Избирательного кодекса. Таким образом, власти не выполнили обещание о соблюдении «периода мира» во время избирательной кампании. Накануне дня выборов в пункт третий статьи 167 Кодекса об административных правонарушениях были внесены изменения, которые тем не менее вступят в силу лишь в конце октября. Являясь важным шагом для последующих выборов, эти изменения не применимы к 15 октября.




3. Недостаточное соблюдение принципов верховенства закона и надлежащих правовых процедур, а также отмеченные случаи ущемления исполнительной властью независимости действий судебной власти создали неустойчивое правовое поле, для которого характерно произвольное применение законов. Таким образом, связанные с применением избирательного законодательства вопросы, включая некоторые спорные ре шения избирательных комиссий, не были разрешены должным об разом.

4. Предвзятый подход подконтрольных государству средств массовой информации доминировал в сфере печатной и электронной ин формации, при этом независимые средства массовой информации не выступили в качестве эффективного противовеса. В итоге кандидаты имели ограниченный доступ к СМИ. Пять минут бесплатного эфирного времени на национальном телевидении, гарантированные на этих выборах в равной сте пени всем кандидатам в депутаты, хоть и являлись положительным моментом по сравнению с предыдущими выборами, все же были явно недостаточными для озна комления избирателей с кандидатами, а формат программ неэффективен.

Несмотря на предпринятые этим летом со стороны властей действия по улучшению избирательного процесса, на изменения, внесенные в законодательство о выборах, а также изменения и дополнения, предложенные президентом, недостатки все еще очевидны.

Среди наиболее заметных улучшений необходимо отметить:

— процесс рассмотрения апелляций был открытым для общественности, что повысило его прозрачность;

— независимые местные наблюдатели работали в условиях улучшенной правовой базы, что также способствовало повышению открытости избирательного процесса;

— введение в состав Центральной комиссии Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов представителей некоторых политических партий с правом совещательного голоса явилось шагом навстречу демократизации и открытости избирательного процесса;

— конструктивным явилось также и предоставление некоторым оппозиционным лидерам возможности выступать в поддержку бойкота выборов вплоть до дня выборов, не опасаясь быть привлеченными к административной ответственности, а также выдвигать свою кандидатуру на выборах, проводить агитацию, критиковать власти;

— позитивной явилась и отмена требования о регистрации местных структур политических партий для выдвижения ими своих кандидатов в соответствующих округах.

БДИПЧ/ОБСЕ готово продолжить диалог с властями Беларуси с целью рассмотрения проблемных моментов, которые отражены в настоящем документе, а так же для обсуждения предстоящих президентских выборов.

БДИПЧ/ОБСЕ отказалось проводить наблюдение в день голосования. Центральная комиссия Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов между тем аккредитовала 194 международных наблюдателя. Координация Центральной избирательной комиссией по выборам и проведению республиканских референдумов деятельности международных наблюдателей и посещений ими избирательных участков ставит под сомнение результаты наблюдения международных наблюдателей. Вне всякой связи с деятельностью Центральной комиссии Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов представители парламентской «тройки» Европейского парламента, Парламентских ассамблей ОБСЕ и Совета Европы прибыли в Минск 15 октября 2000 г. для того, чтобы дать политическую оценку ситуации.

## Увесь рэсурс — дэпутату ад ўлады!

У традыцыях савецкіх часоў прайшла выбарчая кампанія ў Палату прадстаўнікоў па Шумілінскаму раёну. Мясцовая ўлада зрабіла стаўку на кандыдатуру Лектарава В. М. Кандыдат ўжо чатыры гады прымаў законы ў Палаце, забяспечыў нам сённяшняе добрае жыццё і выказаў жаданне прыняць яшчэ лепшыя законы, каб хутчэй узрос дабрабыт простых грамадзян.

Сваім галоўным дасягненнем кандыдат лічыў тое, што ён пралячыў амаль усю вобласць і яе грамадзян магчыма разглядаць здаровымі людзьмі. Засталася маленькая купка "прыдуркаватых" шызафрэнікаў апазіцыянераў, але імі павінны займацца супрацоўнікі КДБ. Каб усе грамадзяне адчувалі, як у нас усё добра.

Пасля такой прамовы Валерыя Мікалаевіча астатнім кандыдатам не было ніякага сэнсу займацца агітацыяй. Тым больш, што сродкаў хапіла толькі на ўлёткі, а сустрэчы параілі не праводзіць. Ды й сэнс які ў іх? Толькі марная трата часу.

Але пасля сустрэч з Лектаравым мясцовыя актывісты ад улады яшчэ два разы ў рабочы час абыходзілі выбаршчыкаў, тлумачылі грамадзянам якая карысць будзе ад лекара ў Палаце і запісвалі вясковых выбаршчыкаў у спісы для галасавання на даму.

Самая цікавае адбывалася ў дзень галасавання, калі ў прысутнасці назіральніка, пенсіянеры настойліва прасілі членаў выбарчых камісій зрабіць за іх правільны выбар, выбраць з пяці кандыдатур патрэбнага. Магчыма на ўсіх ранейшых выбарах за іх гэта і рабілі члены камісій, што ў састарэлых не выпрацавалася ўменне рабіць самастойны выбар.

Толькі пасля шматдзённых апрацовак свядомасці грамадзян зімоўскімі, чайкамі, казіяткамі і функцыянерамі ад улады, пасля галасавання на даму на Амбросавіцкім участку №90 ў галасаванні з 455 выбаршчыкаў удзел прыняла 320 і толькі 190 аддалі галаса за галоўнага доктара. А гэта менш паловы ўсіх выбаршчыкаў!

**Сяргей Аляксандраў**

## Сон розуму нараджае ...

На выбарах у Палату прадстаўнікоў пры Шумілінскай акруговай камісіі назіральнікам ад грамадзян быў зарэгістраваны Салодкін Сяргей. Назіральнік атрымаў усе неабходныя паўнамоцтвы для назірання за працай акруговай камісіі, якія гарантаваны законам. Толькі якасна выканаць свае абавязкі назіральніку не прыйшлося.

Па-першае, старшыня акруговай камісіі т. Аўчыннікава В. П. засякрэціла інфармацыю аб колькасць бюлетэняў, якія былі дастаўлены ва участковыя камісіі трох раёнаў. Адразу ўзнікае думка, што участковыя камісіі або аргаддзелы райвыканкамаў атрымалі іх з парушэннямі дзеючага Выбарчага Кодэкса, бо інакш ці ёсць патрэба ў сакрэтнасці гэтых лічбаў?

Па-другое, пасля завяршэння галасавання на ўчастках назіральнік накіраваўся ў акруговую камісію, каб паназіраць за працэсам падвядзення вынікаў выбараў у акрузе. Але пасля з'яўлення ў камісіі сп. Салодкін пацікавіўся ў старшыні , хто і як з сябраў камісіі падводзіць вынікі галасавання. Збіралі інфармацыю пераважна супрацоўнікі райвыканкама і т. Аўчыннікава прапанавала назіральніку пакінуць акруговую камісію.

Так у чарговы раз улады засведчылі, што не здольны працаваць ва ўмовах свабоднага і адкрытага назірання за выбарамі.

**Аляксандр Сяргееў**

## Брудныя тэхналогіі

Па Віцебскай сельскай акрузе ў Палату прадстаўнікоў балатаваліся сем кандыдатаў. У адрозненні ад іншых акруг кандыдатаў ад улады было два: Голубева Т.Г. ( намеснік міністра Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва) і Мацэнаў В. В. ( дырэктар Лужаснянская сельгастэхнікума). Кандыдат ад улады Голубева Т. Г. і яе давераныя асобы ў парушэнні арт 47 ч.2 прапанавалі выбаршчыкам матэрыяльныя каштоўнасці, як сведчанне іх клопату аб грамадзянах. Сярод прэзентаў праходзілі тэлевізары, электрапілы, пастаўка будаўнічых матэрыялаў.

Члены участковых камісій парушалі свабоду волевыяўлення грамадзян і тайну удзела ў выбарах па настойлівых загадах выканаўчай улады. На асобных участках амаль у паловы выбаршчыкаў дамы сталі кабінамі "тайнага" галасавання. Ні на якіх участках не быў арганізаваны падвоз выбаршчыкаў на ўчасткі. На ўчастках дзе былі назіральнікі галасаванне на даму склала: Стасеўскі №44 – 44,3%, Перамонтаўскі №46 – 30%, Адаменскі №49 – 56,3%, Пушкоўскі №50 – 60,3 %.

Але не гледзячы на прымус начальства па г.п. Лёзна на участкі з 5295 выбаршчыкаў прыйшло толькі 3408 – 64,3%. Перамогу на ўчастках па Лёзна атрымаў самастойны кандыдат Жаўняк У.Р. (ваенны юрыст). Пасля завяршэння выбарчага спектаклю пачаўся адміністратыўны ўціск на давераных асоб т. Жаўняка У.Р. з боку кіраўніцтва райвыканкама.

**Міхась Міхайлаў**

## Гарадок не падтрымлівае прэзідэнцкую ўладу!

Прайшоўшыя выбары ў Палату прадстаўнікоў на Гарадоччыне засведчылі, што падтрымка Лукашэнкі імкліва змяншаецца. Нягледзячы на ўвесь адміністратыўны рэсурс, райвыканкаму не атрымалася дасягнуць прыстойнай лічбы яўкі выбаршчыкаў на галасаванне па райцэнтру. Назіранне за выбарамі ў Гарадку засведчыла нізкую прававую культуру не толькі сябраў камісій, але і іх кіраўніцтва. Не вытрымлівалася патрабаванне закона па датэрміноваму галасаванню, асабліва на Баграмянаўскім участку ў сельгастэхнікуме, а таксама пры працэдуры галасавання на даму па Зарэчанскаму ( ст. камісіі – Кладкевіч Л.І.) і Вакзальнаму (ст. камісіі – Чарнякоў В.П.) участках. Члены камісій злоўжывалі агітацыяй за яўку ў дзень выбараў.

Але і пры шматлікіх парушэннях Выбарчага Кодэкса вынікі выбараў несуцяшальныя для ўлады. Прапануем увазе чытачоў вынікі галасавання па ўчастках Гарадка і Езярышча адпаведна дадзеных назіральнікаў. ( Першая лічба – колькасць выбаршчыкаў на участку, другая – колькасць выбаршчыкаў прыняўшых удзел у галасаванні, трэцяя – падтрымаўшых Лектарава)

Баграмянаўскі (сельгастэхнікум)2240 – 1311 – 494, Камсамольскі ( СШ№1) 2252 – 1275 – 532, Савецкі (аддзел адукацыі) 1862 – 984 – 480, Зарэчанскі (СШ№2) 2498 – 1250 – 604, Вакзальны (базавая школа) 1450 – 836 – 434, Езярышчанскі (ДК) 1503 – 823 – 367.

Дадзеныя вынікі сведчаць, што выбаршчыкі райцэнтра і Езярышча праявілі добрая разуменне выбарчага спектакля і зрабілі важкае папярэджанне выканаўчай уладзе. Але каб атрымаць прыстойныя вынікі на прэзідэнцкіх выбарах грамадзянам трэба далучыцца да выбарчага працэсу, калі не ў ініцыятыўнай групе адзінага кандыдата ад апазіцыі, то патрэбна прымаць удзел у працы выбарчых камісій, каб не было фальсіфікацый. Тэлефануйце ў рэдакцыю і мы сумеснымі дзеяннямі пераможам!

**Леанід Антонаў**

## Белградскі ўрок

Змецены перадапошні дыктатарскі рэжым у Еўропе. Змецены годна і... нечакана.

Яшчэ некалькі дзён таму ўлада Мілошавіча ў Югаславіі здавалася вечнай. На чале сілавых структур краіны былі прызначаны адданыя яму генералы, дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі штодня перадавалі хвалебнае алілуя і сцвярджалі, што югаслаўскі народ моцна любіць свайго прэзідэнта.

Нарэшце народ публічна праявіў сваю «любоў» да дыктатара штурмам парламента і дзяржаўнага тэлебачання, а кулакамі і палкамі па спінах тэлежурналістаў «аддзячыў» тым за «праўдзівую» інфармацыю. І дыктатура пала так нечакана, як і Берлінская сцяна, як развалілся Савецкі Саюз і Варшаўскі дагавор...

Падзеі ў Белградзе яшчэ раз засведчылі: у Еўропе няма месца для дыктатараў, бо народы кантынента цвёрда ўзялі курс у будучыню. Рана ці позна, але нарыў незадаволенасці прарываецца і змятае антычалавечыя рэжымы. Так было ў Варшаве, Берліне, Празе, Будапешце, Бухарэсце, Сафіі, Вільнюсе, Рызе... І вось днямі ў Белградзе. Так будзе паўсюдна. У Еўропе ўжо моцныя карані дэмакратыі і рынкавай гаспадаркі.

Падзеі ў Белградзе зноў праявілі імперскую хваробу Масквы і яе любоў да дыктата-раў любой масці. Пасля першага тура выбараў, у якім апазіцыянер Ваіслаў Каштуніца атрымаў перамогу і віншаванні вядучых заходніх лідэраў, Расія ўпарта абараняла Мілошавіча. Заява міністра замежных спраў Расійскай Федэрацыі Ігара Іванова, нягледзячы на яе абцякальныя фармулёўкі, утрымлівала падтрымку югаслаўскага дыктатара.

Падобныя заявы былі разлічаны на прастакоў. І толькі пасля таго, як народ Югаславіі ўзяў уладу ў свае рукі, у Белград паляцеў міністр замежных спраў Расійскай Федэрацыі Ігар Іваноў з віншаваннямі ад прэзідэнта Пуціна і міратворчай місіяй. Ды з той місіяй выйшла асечка. Нельга было не заўважыць, што ўсмешка Іванова ў Белградзе была даволі кіслай. Яму хацелася звесці Мілошавіча і Каштуніцу і прымірыць іх пры сваім пасрэдніцтве. Але Каштуніца адмовіўся ад такога пасрэдніка, дыпламатычна спаслаўся на тое, што ён сам усё вырашыць з былым са-пернікам.

Асцярожнасць Каштуніцы да «старэйшага брата» зразумела. У Еўропе яшчэ не забыліся пра пасрэдніцкую місію Расіі ў беларускім канфлікце. Памятаеце, калі над Лукашэнкам навіс імпічмент (адхіленне ад улады рашэннем Канстытуцыйнага суда), у Мінск тэрмінова прыляцелі тагачасны прэм'ер-міністр Расіі Чарнамырдзін, кіраўнікі палат парламента: верхняй — Строеў і ніжняй — Селязнёў. Яны паабяцалі стаць гарантамі дэмакратычнага вырашэння крызісу, нават падпісалі адпаведную паперу, але як толькі хмара імпічменту адышла ад Лукашэнкі, яны адразу ж сталі на яго бок.

Урок Белграда мае выключна важнае значэнне для нас, для беларусаў. І для ўлады, і для апазіцыі. Рабіць выгляд, што нас ён не тьгчыцца, што ў нас, маўляў, зусім іншая сітуацыя, глупства. Менавіта так многія сцвярджалі і ў Югаславіі, каменціруючы падзеі ў Празе, Бухарэсце... У нас падобная сітуацыя, якая была напярэдадні падзей у Белградзе, Празе... На месцы ўлад я не праводзіў бы выбарчы фарс... Бо гэта міна за-паволенага дзеяння.

**Алесь ДРАБЧУК «НАША СВАБОДА»**

# З годнасцю сустрэць юбілей паэмы

На паседжанні Гарадоцкай рады адбылося абмеркаванне праекта плана падрыхтоўкі да святкавання 150-годдзя з дня напісання славутай паэмы «Тарас на Парнасе», аўтарам якой лічыцца Канстанцін Вераніцын. План разлічаны на пяць год – да 17 красавіка 2005 года і ўтрымлівае разнастайныя мерапрыемствы: пераклад паэмы на еўрапейскія мовы, адкрыццё мемарыяльных знакаў, правядзенне чытанняў, арганізацыю дзейнасці грамадскай Акадэміі тарасазнаўства і г. д. Сябры Рады прапанавалі звярнуцца да кіраўніцтва ВДУ (прарэктар А.М. Дарафеяў ) за падтрымкай па арганізацыі працы аргкамітэта па ўшанаванню славутай паэмы. І безумоўна ўсю працу плануецца весці сумесна з вядучым тарасазнаўцам краіны – Генаддзем Кісялёвым.

## ПРАПАНОВЫ ГАРАДОЦКАЙ РАДЫ ТБМ ДА ЗАЦІКАЎЛЕНЫХ АСОБ

**План па падрыхтоўцы святкавання 150-годдзя з дня напісання паэмы "Тарас на Парнасе" 15 красавіка 2005 года**

1. Стварыць аргкамітэт па распрацоўцы праграмы святкавання 150-годдзя з дня напісання паэмы "Тарас на Парнасе". Распрацаваць бюджэт мерапрыемстваў. Кастрычнік 2000 г.
2. Правесці працу па перакладу паэмы "Тарас на Парнасе" на еўрапейскія мовы: нямецкую, іспанскую, французкую, італьянскую, украінскую, польскую, чэшскую, літоўскую- 2001-2003 г.
3. Стварыць музейныя экспазіцыі, прысвечаныя паэме ў музеях: Гарадоцкі краязнаўчы музей - 2001 г., лістапад; Віцебскі літаратурны музей- 2002 г., красавік.
4. Арганізаваць працу грамадскай Акадэміі Тарасазнаўства па вывучэнню, папулярызацыі славутай паэмы. 2001 г. – 2005 г.
5. Устанавіць мемарыяльныя знакі: На Радзіме К. Вераніцына (в. Астраўляне) – 1 чэрвеня 2001г.
У Гарадку ( каля краязнаўчага музея) — 15 красавіка 2002г.
На паселішчы в. Пуцявішча (Віцебскі р-н) – 14 лістапада 2003 г.
6. Правесці літаратурна-краязнаўчыя чытанні: "Паэма "Тарас на Парнасе": здабыткі і праблемы" – Гарадок, лістапад 2003.
7. Правесці даследчую працу па: высвятленню сувязей К. Вераніцына і Д. Няелава Смаленскі абласны архіў – 3 квар. 2001 г. 2. удакладненню даты смерці К. Вераніцына Гістарычны архіў С.-Пецярбурга – 3 квар. 2002 г.
8. Падрыхтаваць і выдаць святочнае выданне паэмы "Тарас на Парнасе", якое ўтрымлівала б пераклады паэмы на еўрапейскія мовы. 4 квартал 2004 г.
9. Правесці міжнародную навукова-практычную канферэнцыю, прысвечаную значэнню паэмы для сусветнай літаратуры, а таксама вырашэнню праблемы аўтарства паэмы. 15 красавіка 2005 г.

***Рэд. Зацікаўленыя асобы могуць звяртацца з прапановамі ў рэдакцыю.***




**Заснавальнік: Леанід Гаравы.**

**Рэдактар: Аляксей Шчупак.**

Адрас: 211540, г. Гарадок, вул. Гагарына, 30б-16
Тэл. 8-239-2-38-42
E-mail: gasc@gar. belpak.vitebsk. by

Выдадзена пры падтрымцы Віцебскага аддзялення ГА «Фонд імя Льва Сапегі»
Распаўсюджваецца бясплатна
Наклад 290 асобнікаў